**СОНЦА:**

Усход, захад, даўжыня дня:

Мінск — 4.57, 21.32 16.35;
Віцебск — 4.40, 21.30, 16.50;
Магілёў— 4.46, 21.22, 16.36;
Гомель — 4.53, 21.10, 16.17;
Гродна — 5.15, 21.45, 16.30;
Брэст — 5.22, 21.38, 16.16.

**МЕСЯЦ:**

Поўня 14 ліпеня.

**ІМЯНІНЫ:**

Філіпа, Анатоля, Васіля, Кастуся, Івана, Аляксандра; Марыі, Яўстахія.

# ЗВЯЗДА

16 ЛІПЕНЯ 1992 г. ЧАЦВЕР, № 141 (21919)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1 рубель


# РОЗГАЛАС

## АДНЫ «ЛЕНІНЫ» АДЫХОДЗЯЦЬ, ДРУГІЯ—ВЯРТАЮЦЦА

КРАСНАПОЛЛЕ. Доўгія гады цэнтральная плошча ў райцэнтры была безыменнай. І вось на адным з апошніх пасяджэнняў выканкома пасялковага Савета народных дэпутатаў ёй прысвоена імя... Уладзіміра Ільіча Леніна. У мінулыя гады на гэты факт можна было б і не звярнуць увагі, але, згадзіцеся, зараз, у час пагалоўнага адмаўлення ад былых сацыялістычных «святынь», грамадзянская пазіцыя дэпутатаў не можа не выклікаць пэўнай павагі.

## БЕЗ ЧАРГІ, АЛЕ ЗА ГРОШЫ

МАГІЛЁЎ. Раней у чарзе на атрыманне ўласнай жылплошчы можна было стаяць 15—20 гадоў, а цяпер, калі дзяржава паступова адыходзіць ад бясплатнага выдзялення жылля сваім грамадзянам, атрымаць яго можна за лічаныя месяцы, але... Так, аб'яднанне «Магілёўводбуд», якое вымушана было прыпыніць будаўніцтва 59-кватэрнага дома з-за адсутнасці грошай, знайшло простае і неарыгінальнае для часоў рыначнай эканомікі выйсце — прадаваць кватэры. Прычым для «сваіх», меліяратараў, якія жадаюць без чаргі ўсяліцца ў новы дом, кошт аднапакаёвай кватэры складае 146 тысяч рублёў, двухпакаёвай — 191 тысячу, трохпакаёвай — 259 і чатырохпакаёвай — 307 тысяч рублёў. Для «чужынцаў» усё значна даражэй. Напрыклад, за двухпакаёвую кватэру ім давядзецца выкласці 377 тысяч рублёў, а за трохпакаёўку — 513. Здаецца, адкуль простаму чалавеку ўзяць такія грошы? Але... Жыллё на ўласныя сродкі згадзіліся будаваць амаль дзесяць чалавек, прычым ёсць сярод іх «пабочныя» кліенты і нават з-за межаў рэспублікі. Як толькі дастаткова выручаць за прададзеныя кватэры, будаўніцтва будзе прадоўжана.

## У ПРЭЗІДЫУМЕ САВЕТА МІНІСТРАЎ

У Беларусі створана Дзяржаўная міграцыйная служба. Наконт гэтага на чарговым пасяджэнні Прэзідыума Савета Міністраў прынята спецыяльная пастанова. Рашэнне прадыктавана тым, што ў рэспубліцы рэзка павялічылася колькасць бежанцаў. Толькі за апошні час з Прыднястроўя, Закаўказзя і іншых «гарачых» месц у Беларусь прыбыло больш як паўтары тысячы чалавек. Магчыма, ужо ў недалёкай будучыні іх колькасць значна ўзрасце. Бо за межамі рэспублікі жывуць больш як 2 мільёны беларусаў. Таму не выключана, што праз некалькі месяцаў яе захлісне міграцыйны паток. У мэтах рэгулявання гэтага працэсу, а таксама абароны правоў бежанцаў, мігрантаў і членаў іх сем'яў, забеспячэння занятасці працаздольнага насельніцтва пры Дзяржкампрацы ўтворана Дзяржаўная міграцыйная служба.

На пасяджэнні Прэзідыума таксама разгледжаны і адобраны праекты законаў «Аб дзяржаўнай экалагічнай экспертызе», «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Кодэкс аб шлюбе і сям'і Рэспублікі Беларусь».

Асноўнае месца ў парадку дня заняло абмеркаванне ходу рэалізацыі плана дадатковых мер па барацьбе са злачыннасцю, прынятага ўрадам у маі. З інфармацыяй выступілі кіраўнікі ўпраўленняў па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю МУС і КДБ С. Рухлядзеў і Н. Ільюк, старшыня Дзяржмытні Г. Шкурдзь. Імі прыведзена нямала фактаў па выкрыццю злачынных груп і раскрыццю злачынстваў. Аднак, як адзначылі ўдзельнікі пасяджэння, дакладчыкамі не быў дадзены аналіз самой з'явы злачыннасці, не раскрыты яе карані. Прагучала патрабаванне больш цеснай каардынацыі дзеянняў розных службаў. Пакуль жа іх работа па барацьбе са злачыннасцю прызнана недастатковай.

**Служба інфармацыі Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь —БЕЛТА.**

## Чырвоны Крыж звяртаецца да неабыякавых

**Сёння для многіх грамадзян былога Саюза надышоў цяжкі час выпрабаванняў. Выбухі снарадаў, гвалт. Льецца кроў і старых, і дзяцей, і жанчын. Многія вымушаны пакідаць абжытыя мясціны і ехаць на пошукі лепшай долі, якая не азмрочвалася б смерцю родных. Так, толькі з Прыднястроўя выехала звыш 150 тысяч чалавек.**

**У гэты горкі для ўсіх нас час Таварыства Чырвонага Крыжа РБ звяртаецца да насельніцтва Рэспублікі Беларусь з просьбай аказаць дапамогу тым, хто трапіў у бяду. Аказваючы дапамогу тым, хто трапіў у бяду, мы аказваем дапамогу сабе — захоўваем пачуццё спагады, разумення і бескарыслівасці, — гаворыцца ў звароце.**

**Для тых беларусаў, якія ставяцца неабыякава да лёсу іншых людзей, мы паведамляем разліковы рахунак Таварыства Чырвонага Крыжа: разліковы рахунак № 700536 у гардырэкцыі Мінскбізнесбанка г. Мінска, МФА 153001. Код 764 з паметкай «Выратаванне».**

## УКАЗ Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

**Аб правядзенні дадатковых выбараў народных засядацеляў раённых (гарадскіх) народных судоў, абласных і Мінскага гарадскога судоў Рэспублікі Беларусь**

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Абласным і Мінскаму гарадскому Саветам народных дэпутатаў правесці дадатковыя выбары народных засядацеляў абласных і Мінскага гарадскога судоў у ліпені — жніўні 1992 года.

2. Выканаўчым камітэтам абласных і Мінскага гарадскога Саветаў народных дэпутатаў арганізаваць правядзенне дадатковых выбараў народных засядацеляў раённых (гарадскіх) народных судоў у ліпені — жніўні 1992 года.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

19 чэрвеня 1992 г.
г. Мінск.

# САМЫ ПРОСТЫ РЭЦЭПТ АД МІЖНАЦЫЯНАЛЬНАЙ ВАРОЖАСЦІ—ПАПЯРЭДЗІЦЬ ЯЕ

### ПАДРАБЯЗНАСЦІ СУСТРЭЧЫ СТАНІСЛАВА ШУШКЕВІЧА І ВІТАЎТАСА ЛАНДСБЕРГІСА Ў ГЕРВЯТАХ

Гервяты — звычайнае беларускае мястэчка, мала прыстасаванае для прыёму прэзідэнтаў. Высокі спічасты дах касцёла, які сваімі гатычнымі формамі ўзвышаецца далёка над наваколлем і абуджае настальгічныя згадкі пра готыку Нямеччыны — гэта, бадай, адзіная гістарычная славутасць Гервятаў.

У астатнім мястэчка мала адрозніваецца ад іншых на Гродзеншчыне: тая ж немудрагелістая сялянская архітэктура, — шаляваныя хаты пад шыфернымі стрэхамі, тыя ж купчастыя прысады, сціплыя вясковыя крамы, правінцыяльныя спакой і няспешнасць.

Аб прыездзе высокіх гасцей жыхары Гервятаў маглі здагадацца па тым, што на вясковай вуліцы раптам у спешным парадку пачалі класці асфальт, а ў новым Доме культуры мыць вокны і скрэбці падлогу.

Наўрад ці скрыжаваліся б калі-небудзь шляхі лідэраў дзвюх дзяржаў у Гервятах, калі б не «літоўскасць» гэтай вёскі. Літоўцаў у Гервяцкім сельсавеце крыху больш як трэць: 1.300 чалавек у 3-тысячным насельніцтве. Свае традыцыі і мову літоўцы шануюць, але з суседзямі не сварацца. У вясковым магазіне мы чулі і беларускую, і літоўскую мовы. І прадаўшчыца, і пакупнікі лёгка пераходзілі з адной на другую, і гэта ім, здаецца, не каштавала вялікай працы.

Праўда, ідэалізаваць сітуацыю наўрад ці варта. Справа ў тым, што сферы ўжытку моў у гэтым кутку Гродзеншчыны размеркаваны вельмі своеасаблівым чынам. З касцёльнага амбону прысланы з Літвы ксёндз Петрыкас Няромінас настаўляе паству па-польску і па-літоўску. У мясцовай школе настаўнікі вучаць дзетак гервятцаў матэматыцы, фізіцы і іншым мудрагелістым навукам па-руску. Што застаецца беларусам? Бел-чырвона-белы сцяг над сельсаветам і вуліца, на якой, на шчасце, наша мова пакуль што гучыць часцей за астатнія.

**У міжэтнічных канфліктах, якія палаюць амаль на ўсіх паўднёвых ускраінах былога СССР, вінаваты не народы, а палітыкі, якія спадзяюцца на гэтай хвалі ўзляцець на вяршыню ўлады. Успомніце, з чаго пачыналіся грамадзянскія войны ў Карабаху, Асеціі, Прыднястроўі? З блізарукіх заяў палітыкаў аб тэрытарыяльных прэтэнзіях, з патрабаванняў аднавіць гістарычную справядлівасць і вярнуць тое, што некалі належала іншай дзяржаве і што вярнуць без крыві немагчыма. Далейшы сцэнарый усюды аднолькавы: ударная хваля ад узарванай парахавой бочкі нараджала кроў, гора, смерць, заадно змятаючы з палітычнай арэны і славалюбівых палітыкаў, якія, па сутнасці, і заварылі ўсю гэту кашу.**

**Наіўна меркаваць, што на Беларусі і ў Літве не існуе такой пагрозы. Напярэдадні і пасля другой сусветнай вайны сталінскі рэжым шляхам перакройкі граніц заклаў столькі патэнцыяльных магчымасцей для крывавых маніпуляцый, што раздзьмуць вогнішча варожасці ў беларуска-літоўскім пагранiччы зусім нескладана.**

**С. Шушкевіч і В. Ландсбергіс выдатна разумеюць гэту небяспеку і таму не чакаюць, пакуль трэба будзе гасіць полымя, а — імкнуцца дабіцца таго, каб яно ні ў якім разе тут не ўспыхнула.**

...Няхай даруюць мне кіраўнікі дзвюх незалежных дзяржаў, але іх спатканне з гервятаўцамі ў Доме культуры вельмі нагадвала старыя добрыя часы, калі высокія партыйныя і дзяржаўныя кіраўнікі прыязджалі сустракацца з народам і выслухоўваць іх крыўды. Але я зусім не іранізую над гэтым. Як ні дзіўна, седзячы поруч на сцэне калгаснага клуба за засланым чырвоным абрусам сталом, старшыні парламентаў аднай сваёй прысутнасцю і ўзаемнай прыязнасцю ўносілі спакой у душы людзей. Думаю, што ўжо дзеля аднаго гэтага варта было прыязджаць сюды.

Праўда, напачатку кіраўнікі дзяржаў пераацанілі лінгвістычныя магчымасці тутэйшых жыхароў. Зрэшты, беларускамоўнае ўступнае слова С. Шушкевіча вялікіх непаразуменняў не выклікала. А вось прамову В. Ландсбергіса на літоўскай мове вяскоўцы хоць і цярпліва выслухалі, але потым папрасілі перакласці. Паколькі прафесійнага перакладчыка ў Гервятах не аказалася — давялося абмежавацца прыблізным перакладам.

Пра што ж гаварылі лідэры ў Гервятах? Згадаю тэзісы іх выступленняў і адказаў.

**С. Шушкевіч**

— Праблемы літоўцаў на Беларусі і беларусаў ў Літве павінны вырашаць самастойна самі гэтыя дзяржавы на аснове дагавораў. Палітычны дагавор паміж Беларуссю і Літвой будзе заключаны, магчыма, ужо сёлета. Цяперашняя сустрэча ў Гервятах і на Нарачы — этап падрыхтоўкі гэтага дакумента, калі абодва бакі маюць магчымасць абмяняцца меркаваннямі.

— Закон аб ахове спажывецкага рынку працуе цяпер яўна не на карысць Беларусі. Магчыма, ўжо ў хуткім часе парламент перагледзіць яго. Гэта значна аблегчыць сувязі паміж людзьмі па абодва бакі граніцы, скасуе прыкрыя непаразуменні.

— Граніцы не павінны быць празрыстымі для злачынцаў. Прававы вакуум у гэтай сферы паміж Літвой і Беларуссю будзе скасаваны пасля заключэння адпаведнага дагавора, які рыхтуецца.

— Беларускую праграму тэлебачання жыхары прыгранічных раёнаў змогуць глядзець пасля таго, як яна будзе пераключана на першы канал. Лідэр Беларусі ў чарговы раз абвінаваціў канал «Астанкіна» ў прадузятасці і тэндэнцыйнасці.

**В. Ландсбергіс**

— Дэлімітацыя (удакладненне) дзяржаўнай граніцы паміж Літвой і Беларуссю адбудзецца ўжо да канца верасня гэтага года шляхам дасягнення ўзаемнай згоды.

— Для жыхароў прыгранічных раёнаў будзе ўстаноўлены асобы, спрошчаны парадак перасячэння граніцы. Едучы да маці або да швагра ў суседнюю загранічную вёску, прасіць у пасольстве візу не давядзецца.

— Літоўскія беларусы маюць усе магчымасці для адкрыцця беларускіх класаў і школ. Справа — у жаданні бацькоў.

— Літва, як і многія раёны Беларусі, ахоплена жорсткай засухай, якой не было ўжо 50 гадоў. Краіна аб'яўлена зонай бедства. Лідэр Літвы выказаў спадзяванне, што краіны разам будуць знаходзіць выйсце з бяды. Як добры прыклад, было згадана ўзаемадзеянне з Беларуссю ў часы энергетычнай блакады Літвы з боку Масквы.

— Дзецям літоўцаў не будзе неабходнасці ехаць на вучобу ў Літву, бо яны змогуць наведваць літоўскія школы тут, на Беларусі.

Першапачаткова В. Ландсбергіс планаваў наведаць толькі вёскі Астравеччыны, дзе жыве шмат літоўцаў — Рымдзюны, Гіры, Мільцэі... Аднак па прапанове С. Шушкевіча вырашана прадоўжыць дыялог на Нарачы. Хутчэй за ўсё, ніякіх дакументаў па выніках сустрэч прынята не будзе: С. Шушкевіч і В. Ландсбергіс абмяркуюць важнейшыя канцэптуальныя праблемы ўзаемаадносін, каб наблізіць падпісанне палітычнага дагавора.

Цёмна-сіні «Мерседэс» В. Ландсбергіса і чорны «ЗІЛ» С. Шушкевіча разам спыніліся ў Рымдзюнах, дзе будуецца вялікі Літоўскі культурны цэнтр са школай, бібліятэкай і г. д.

Да таго, на невялікай прэс-канферэнцыі, я спытаў, ці будзе нешта падобнае ўзводзіцца для беларусаў у Літве. Аказалася, у Вільнюсе літоўскі ўрад ужо перадаў, па словах С. Шушкевіча, «пэўныя пабудовы і там арганізуецца дастойны беларускі цэнтр».

В. Ландсбергіса і яго жонку мясцовыя літоўцы сустракалі кветкамі, літоўскімі флагамі і нацыянальнымі песнямі. Крыху збянтэжаныя гэтым, беларусы, якія не паспелі зарганізавацца і падрыхтавацца да сустрэчы свайго кіраўніка,— у час, калі літоўцы сталі скандзіраваць «Ле-ту-ва» і «Ланд-сбер-гіс»,— адказалі дружным «Бе-ла-русь» і «Шу-шке-віч». Міжнацыянальнага канфлікту з гэтага не атрымалася: літоўцы першымі зарыентаваліся ў двухсэнсоўнасці сітуацыі і з усмешкамі падтрымалі суседзяў.

**Валянцін ЖДАНКА, спец. кар. «Звязды». Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**
Астравецкі раён.

## АБ'ЯДНАННЯЎ СТАНОВІЦЦА БОЛЬШ

Стварэнне грамадскіх арганізацый, палітычных партый перш за ўсё сведчыць пра далейшую дэмакратызацыю грамадства, будаўніцтва прававой дзяржавы. Менавіта гэта падкрэсліла намеснік міністра юстыцыі Рэспублікі Беларусь Валянціна Падгруша, уручаючы ўчора пасведчанні аб рэгістрацыі новых фарміраванняў. Дарэчы, пасведчанне было ўручана прадстаўнікам сёмай па ліку партыі, якая створана ў рэспубліцы, — Аб'яднанай аграрна-дэмакратычнай партыі.

**Уладзімір ГОЙТАН.**

## У ВЫМУШАНЫМ АДПАЧЫНКУ

Бярозаўскае металаапрацоўчае аб'яднанне. Часова яно працуе тры дні на тыдні.

На складах скапіліся вентылятары, электракаміны, электрарадыятары і ацяпляльныя катлы, якія не знайшлі сваіх пакупнікоў з-за неймаверна высокіх цэн.

Пенсіянеры прадпрыемства на ліпень — жнівень адпраўлены ў неаплачваемы водпуск, астатнія ж работнікі застануцца працаваць з думкай: ці можна будзе, як раней, ісці адпачываць па жаданню.

## НЕ РАСТУЦЬ БАНАНЫ НА КРУТЫХ БЕРАГАХ...

**...а гніюць на нашых, звычайных. Што гэта камусьці ўсё ж выгадна, я пераканалася з размовы з М. Юрэвічам, прадстаўніком мінскага прадпрыемства «Дынама», якое паставіла ў магазіны горада ўжо не адну партыю бананаў. Усё астатняе: аб'ёмы, высокія цэны на прадукцыю і тое, што яна гніе і псуецца, — было пададзена як «камерцыйная тайна».**

Прыйшлося разбірацца ў нескладаных сакрэтах нашых рыначных адносін самастойна. Справа ў тым, што ў апошнія тыдні вялікія партыі заморскіх фруктаў былі пастаўлены ў Мінск з Прыбалтыкі. Але пры гэтым амаль не знізілася цана на прадукцыю. А паколькі супрацоўленне «мінскіх» бананаў канкурэнтам з Прыбалтыкі аказалася слабейшым, то яны і гінуць у першую чаргу, ведаючы, аднак, сабе цану. Толькі тады, калі фрукт ужо немагчыма ўзяць у рукі, каб не запэцкацца, на цэнніку з'яўляецца лічба 100.

Канешне, не мая гэта справа як спажыўца дыктаваць цэны. І нават калі нашы навапечаныя камерсанты ўзялі сабе за правіла галоўны прынцып савецкага гаспадарання — лепш палавіну згнаіць, затое астатняе прадаць па высокай цане, — то гэта таксама іх справа. Але ёсць да вас, паважаныя таварышы — спадары камерсанты, маленькая просьба; прадукцыю, якая страціла таварны выгляд, не гаворачы ўжо аб тым, што даўно не адпавядае патрабаванням да якасці, прыбярыце калі ласка, з прылаўкаў і вітрын магазінаў. Сорамна. Не ў фуражную ж лаўку заходзім...

**Вольга УЛЕВІЧ.**

# Паміж Сцылай і Харыбдай

### САЎМІН ПРЫНЯЎ ПАСТАНОВУ «АБ НАДЗВЫЧАЙНЫХ МЕРАХ ПА ФАРМІРАВАННЮ ДЗЯРЖАЎНЫХ РЭСУРСАЎ ЗБОЖЖА Ў 1992 ГОДЗЕ»

**Несумненна, гэта пастанова ўрада павінна была з'явіцца. Толькі, магчыма, нават і раней. Была яшчэ адна, ад 10 студзеня, але ўжо ўстарэла. Краіна ва ўмовах растучай інфляцыі жыве хутка. Тое, што было адзіна разумным учора, здаецца рэдкім глупствам сёння. Літаральна так. Так што ў гэтым сэнсе меры, распрацаваныя ўрадам, выглядаюць вельмі своечасовымі. Хоць у прадстаўнікоў аграрнай сферы яны, безумоўна, выклікаюць неаднолькавыя пачуцці. Чаму?**

Ну, перш за ўсё, трэба прызнаць, што пастанова пакідае ўражанне чыста, так сказаць, таталітарнага дакумента. (Паважаных работнікаў урада прашу не абурацца — пастараемся разабрацца калі не ва ўсім, то ў многім). Ну ці можна, скажыце, іначай зразумець такі пасаж: «Устанавіць, што калгасы, саўгасы і іншыя сельскагаспадарчыя прадпрыемствы, якія не выканалі абавязковыя пастаўкі збожжа да 31 снежня 1992 года, выплачваюць штраф у размеры двухразовага кошту недапастаўленага збожжа», як не замах на самастойнасць калгасаў, саўгасаў, іншых сельскагаспадарчых прадпрыемстваў? Самы час узняць лямант з нагоды антырыначнага настрою ўрада, што з'яўляецца найбольш папулярнай тэмай у сродках масавай інфармацыі, якія арыентуюцца на прадпрымальніцкія колы. Толькі не трэба. Гэта будзе некарэктна. Бо ёсць і другі бок медаля.

У чацвер, 2 ліпеня, Беларускае тэлебачанне паведаміла пра такі факт: паводле сацыялагічных даследаванняў, вытворчасць прадуктаў харчавання ў рэспубліцы зменшылася на чвэрць. На чвэрць! І ніхто не дасць гарантыі, што гэта падзенне спыніцца ў наступны панядзелак. Зразумела, ёсць нейкая мяжа (магчыма, яе можна ўгледзець), пасля якой зніжэння не будзе. Толькі якой яна будзе і як адаб'ецца на нашым здароўі — фізічным, а значыць, і сацыяльным? Інакш кажучы, мяжа можа быць такой, што, хочаш — не хочаш, а прыйдзецца кідаць работу і арганізаванымі калонамі ісці на плошчу Незалежнасці.

Давайце разбірацца, чаму і як.

Што хлеб — усяму галава, гэта мы ведаем, і гэта, канешне, банальнасць. Не банальнасцю з'яўляецца тое, што хлеба нам не хапае. Якім бы дрэнным ні быў старшыня калгаса, ён разумее: не будзе збожжафуражу — жывёлу прыйдзецца пускаць пад нож. Дарэчы, гэты працэс пачаўся не ўчора, таму што ўжо летась узніклі цяжкасці з фуражом.

Збожжа не хапае— будзем сеяць самі. Так, здаецца, павінен разважаць старшыня. У сапраўднасці ж яго думкі плывуць прыкладна ў такім напрамку: добра, я насею больш жыта і ячменю, але дзе я вазьму: а) насенне; б) дадатковую колькасць саляркі і бензіну; в) угнаенняў; г) гербіцыдаў; д) нарэшце, грошай на ўсё гэта, калі калгас сядзіць на картатэцы і кіраўнік аддзялення банка ўжо не вітаецца?

Нават калі ёсць нейкім цудам грошы — старшыня сто разоў падумае: ці варта траціць іх на расшырэнне пасяўных плошчаў, можа, лепш пусціць на зарплату. Бо калгаснікі — народ цярплівы, але не да бясконцасці ж.

У прыродзе ўсё ўзаемазвязана. Калі статак зменшаны напалавіну, то напалавіну зменшыцца колькасць гною. А значыць, на столькі ж зменшыцца плошча пад жытам, бульбай і ўсім астатнім. Так што баста — кола замыкаецца. Да таго ж, на мінеральныя ўгнаенні пры сённяшніх на іх цэнах і ўсеагульнай нітрафобіі сярод насельніцтва спадзявацца не прыходзіцца.

Большасць калгасаў і саўгасаў зараз жыве за кошт мясакамбінатаў. Здалі жывёлу — атрымалі зарплату. А жывёла не размнажаецца з хуткасцю бактэрыі. На жаль. Ды і корміцца не паветрам, а ў асноўным збожжафуражом. Якога не хапае. А не хапае яго таму, што... Карацей кажучы, кола зноў замкнулася. Вось вам і зніжэнне вытворчасці прадуктаў харчавання на чвэрць. Як гаворыцца, за што змагаліся...

Таму ўрад наш, шмат ляяны і апляваны, глядзеў у корань, калі прымаў сваю пастанову. Безумоўна, самае цікавае ў ёй — «дадатак», дзе прыводзяцца цэны на збожжа, якое нарыхтоўваецца ў лік абавязковых паставак (за тону). Раскід цэн даволі вялікі — ад 6 тысяч рублёў за тону жыта да 25,5 тысячы за тону грэчкі, вырашчанай без пестыцыдаў (няўжо такое дзесьці ёсць?). Абавязковая колькасць збожжа на харчовыя, насенныя, фуражныя патрэбы і для прамысловай перапрацоўкі — 4,5 мільёна тон. Такую колькасць магчыма нарыхтаваць? Каб такія закупачныя цэны сталі рэальнасцю ўжо ў студзені, я, магчыма, паверыў бы. Сёння час у многім упушчаны — праз нейкі месяц пачнецца жніво. Адно — пастанова прымусіць многіх не трымаць збожжа ў засеках. Тым больш, што гэта даволі небяспечна, можна датрымацца да штрафаў. На практыцы гэта, праўда, будзе азначаць толькі павелічэнне запазычанасці калгасаў.

Цэны — біржавыя, адно адрозненне — не вагаюцца. Гэта адначасова і адрозненне, і недахоп. Уласна кажучы, чаму тона жыта каштуе 6, а не 8, не 10 тысяч? Хто і па якому прынцыпу вызначыў? Наогул прынцыпы нашы вядомыя: колькі дзяржава можа заплаціць, столькі і плаціць. Парадокс сітуацыі заключаецца ў тым, што, як толькі дзяржава пачне даваць вёсцы больш, чым звычайна, ці больш, чым гораду (у працэнтных адносінах), так адразу захвалюецца горад. Думаю, зусім не выпадкова ў некаторых пунктах пастановы можна знайсці супярэчнасці. Напрыклад, пункт 2: «У выпадку змянення індэкса цэн на прамысловую прадукцыю (работы, паслугі)..., праводзіцца ва ўстаноўленым парадку індэксацыя цэн на нарыхтоўваемае збожжа». Пункт 3. «Дадатковыя расходы, звязаныя з фарміраваннем дзяржаўных рэсурсаў збожжа, ажыццяўляць у межах выдзеленых датацый на сельскагаспадарчую прадукцыю, хлеб і хлебабулачныя вырабы». А як гэта разумець? Што за дадатковыя расходы? І ці ўваходзіць у іх індэксацыя? Зусім не выключана, што чыноўнікі на месцы могуць трактаваць супярэчнасці не на карысць гаспадарак.

Нарэшце — хачу падкрэсліць яшчэ раз — гэтыя пастаўкі збожжа з'яўляюцца абавязковымі. З разліку 7,7 кілаграма збожжа за бала-гектар інтэнсіўна выкарыстоўваемых сельскагаспадарчых угоддзяў. А пад гэту фармулёўку падпадаюць ворная зямля, на якой расце не толькі жыта, палепшаныя сенажаці і культурная паша. Звычайна ў нашых гаспадарках вытворчасць збожжа на бала-гектар (ворыва) вагаецца ад 60—70 да 120 кілаграмаў. А цяпер раскідайце гэту лічбу на ўсе прыдатныя сельгасугоддзі. Словам, хацелася б спадзявацца, што лічба 7,7 кілаграма цалкам абгрунтаваная. Інакш гэта будзе называцца не нарыхтоўкай, а харчразвёрсткай.

Соль пастановы — палітыка бізуна і перніка. Ну так, гэта несучасны шлях, усё правільна, можна сказаць яшчэ тысячы слоў супраць такога метаду. І тым не менш пры ўсіх яго хібах асабіста я не бачу яму альтэрнатывы менавіта сёння. Заўтра, магчыма, усё зменіцца, а сёння... Урад робіць тое, што можа, што дазваляюць абставіны і стан грамадства.

Ён спрабуе правесці яго паміж Сцылай арганізуючай таталітарнай эканомікі і Харыбдай новай, якая толькі нараджаецца.

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

# РАДЫЁФАКТ

15 ліпеня ў Гомелі адкрылася нарада нацыянальных камітэтаў па радыяцыйнай абароне Беларусі, Расіі і Украіны. Кола пытанняў, якое абмяркоўваюць спецыялісты, — вынікі катастрофы на Чарнобыльскай АЭС.

***

**Рашэннем Гродзенскага аблвыканкома з ліпеня значна павялічан экалагічны збор на кантрольна-прапускным пункце «Брузгі». З кожнага, хто перасякае граніцу на легкавой машыне ці мотатранспарце, незалежна ад мэты паездкі, будзе брацца 150 рублёў, з грузавога аўтамабіля — 500.**

***

14 ліпеня ля Дома-музея першага з'езда РСДРП у Мінску запалымнелі чырвоныя сцягі, з'явіліся плакаты з надпісамі: «Музеі — нацыянальнае багацце, імі не гандлююць», «Міністр культуры Вайтовіч — варвар. У адстаўку!», «Дзямчук — заступнік варвараў. У адстаўку!».

Па рашэнню мінскай арганізацыі «Рух за дэмакратыю, сацыяльны прагрэс і справядлівасць» пікетаванне Дома-музея першага з'езда РСДРП намечана працягваць да таго часу, пакуль не будуць вызвалены яго «незаконна» занятыя памяшканні.

***

**Дэпутат парламента Малдовы заявіў, што існуе рэальная пагроза выбуху на Дубасарскай плаціне. Яна замініравана, паведаміў ён ў інтэрв'ю газеце «Независимая Молдова».**

***

У Расіі і Злучаных Штатах Амерыкі створаны цэнтры па сумеснай распрацоўцы самалёта будучыні — экраноплана, здольнага ўзяць на борт дзве з палавінай тысячы пасажыраў і вялікую колькасць грузаў. Прататып гэтай машыны стварылі рускія канструктары ў Ніжнім Ноўгарадзе. Яна будзе садзіцца і ўзлятаць з воднай паверхні.

